# РАДАВАЯ РБ БЕЛАРУСЬ

Серада. 3 сакавіка 1999 году. № 3 (00003)
Наклад 400299. Кошт 10000 талераў

Грамадзка-палітычная газэта
Заснаваная ў студзені 1999 году


# ЦЫРКАВЫ СЭЗОН



## У КРАІНЕ

### КАМУ НЕ ДАСПАДОБЫ ГАЗЭТА?

Відочныя дасягненьні Беларускае Народнае Рэспублікі ў эканамічнай, сацыяльнай ды іншых сфэрах не даюць спакою пэўным сілам у суседняй Рэспубліцы Беларусь.

Нядаўна адна зь іхных брудных газэтак, "Беларуская маладзёжная", на ўсю РБ зганьбіла "Радавую Беларусь" мэдыю нумар 1 нашае краіны. Аўтар матар'ялу, нехта Пульша, дазволіў сабе выпады ў бок органу Народнага Сакратарыяту й самага масавага выданьньня Рэспублікі. Ён зь ironіяй зьдзекваўся з праекту гімну краіны, над якім працуе народны паэт Беларусі Дзед Карней, маўляў "хай я застануся грамадзянінам РБ зь ейнымі бублікамі, жуйкамі й гумкамі", трызьніць Пульша.

У пэйджэравай гутарцы з прадстаўніком нашае рэдакцыі Дзед Карней гэтак

праця на старонцы 2

Зіма не замарозіла мазгоў нашых грамадзянаў, наадварот, ажывілася цікаўнасьць да культуріцкага жыцьця. Ніхто не чакаў, што адкрыцьцё новага сэзону ў Народным Цырку БНР прыцягне ўвагу гэткае колькасьці гледачоў. На новае шоў блазна Паўлюка пад назовам "Соймік жывёлаў" прыйшло 375 аматараў цыркавога мастацтва.

Праграма зьдзівіла ня толькі аздобаю арэны, што сьвяцілася ад бел-чырвона-белага трыкалёру, але й незвычайным пачаткам імпрэзы. Паўлюк змусіў жывёлаў танчыць: не мазурку й ня вальц, а рэп! Рэпавы пачатак перайшоў у імправізаваны мітынг жывёлаў–яны махалі сьцягамі й выгукалі на сваім лясным дыялекце: "Слава цырку!", "Сьмерць мясаедам!", "Жыве грынпіс!". Гэтым яны пратэставалі супроць быццам прысутнага ў Рэспубліцы масавага спажываньня мяса й уціску правоў вэгетарыянцаў ды іхных сяброў браткоў нашых меншых (хто памятае: насамрэч у нашай краіне з 1994 году цягнецца Ўсенародны мясны Пост). На жаль, блазен Паўлюк працягвае дурыць галаву сваім пестунам, што іх у кожны момант могуць зьесьці. Але гэнае застаецца на ягоным сумленьні–нацыянальны рэфэрэндум 1995 году замацаваў роўнасьць правоў жывёлаў зь людзямі й Народная Беларусь цьвёрда трымаецца гэтага правіла.

Пасьля невялічкага перапынку шоў працягнулася. Жывёлы аднагалосна раўлі ў адказ на палёты фантазіі свайго гаспадара Паўлюка, калі той згодна з усімі дэмакратычнымі працэдурамі пераабраўся пад радасны гоман натоўпу гледачоў лідэрам усіх блазнаў Беларусі. Нават прыхільнікі вялікае Скочкі не змаглі працягнуць таго на пасаду галавы нашых цыркачоў. Скочка ёсьць скочка, дзе яму цёгацца з Паўлюком.

Жывёлы аднак, стомленыя выбарамі, яшчэ трохі пагудзелі-паскакалі ды быў абвешчаны вялікі антракт: Лісы, мядзьведзі й ваўкі пайшлі бухаць фанту з спрайтам, на'т зайцы з УНР, ПНР ды Рады эўрапейскіх трусоў пайшлі ў буфэт: ужывалі яны наш адвечны народны прадукт вадзічку-гарэліцу. Нажлукчаныя, усе выправіліся зноўку на арэну, дзе разьвязалася інсцэнаваная бойка паміж медзьвядзямі: біліся Карц, Каваль і Мікі, ад іх не адлучаўся рэфэры Чорненькі, што ўвесь час нагадваў пра выкананьне Статуту Цырку. Мікі напачатку наагул не хацелі пускаць на арэну, бо той, як прадстаўнік белага мядзьведжага нардычнага племені гатовы быў у кожны момант разарваць на часткі сваіх азіяцкіх супернікаў пандаў. Ды трэ' было некаму выступаць, давялося пусьціць.

Напрыканцы імпрэзы жывёлы пляскалі ў ладкі блазну Паўлюку, які паабяцаў, што ў XXI стагодзьдзі Народны цырк БНР заваюе Эўропу й станецца паўнапраўным гаспадаром тамтэйшых цыркавых арэнаў.

Гледачы разыходзіліся задаволеныя па групах, бо ў Рэспубліцы яшчэ дагэтуль памятаюць нядаўны напад групы ваяўнічых маскалёў, якія накідваліся на мінакоў праз помсту нашаму мудраму Ўраду за даляглядную палітыку эканамічнае блякады таталітарнага рэжыму маскоўскае алігархіі.

Народны Цырк, з Народным Ўрадам разам у заўтра йдзі ў змагарніцкім хаўрусе! Цырк Маляды, ты будзеш першым сказам у гімне нашай роднай Беларусі!

## ВЕСТКІ З РЭГІЁНАЎ

# ДОБРАЕ ПАЧЫНАНЬНЕ

Арыгінальнасьць і нестандартнасьць- дэвіз новага салёну татуіроўкі "У-ліс", што з новага году распачаў сваю працу ў Гомлі. Рэч у тым, што гэтая ўстанова спэцыялізуецца на tatoo з выкарыстаньнем беларускае нацыянальнае сымболікі й гэткага кшталту рэчах. Таму адкрыцьцё салёну выклікала шалёную цікавасьць сярод месьцічаў Гомля ды жыхароў навакольных вёсак.

Як кажа Жорж Малікян, гаспадар салёну, чарга на ягоныя паслугі расьпісаная на месяц наперад, паступае шмат тэлефанаваньняў як ад гомельцаў, гэтак і зь іншых рэгіёнаў краіны. Прадпрымальнік абнадзейвае ахвочых да атрыманьня татуіровак у нацыянальных колерах, што неўзабаве ягоная фірма адчыняе свае філіі ў Менску, Вільні, Беластоку й Смаленску.

Напярэдадні 81-ае гадавіны з дня абвяшчэньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі кожны наведнік салёну "У-ліс" зможа пакінуць сабе штосьці на целе ў памяць пра гэтую велічную дату нашае гісторыі. З навінак прапануюцца шматколеравы партрэт Зянона Пазьняка з "мроеўскаю" цытатаю "Ён яшчэ вернецца" і партрэты Алесяў Казака ды Стральцова з надпісам "Сьмерць ліцьвінскім сэпаратыстам!"

**ЧорнаПАН**

# ПАДАТКОВАЯ "ТАЛАКА"

Каму падабаецца плаціць падаткі? Але большасьць грамадзянаў БНР, безумоўна, разумее, што трэба рабіць свой унёсак у дзяржаўную скарбніцу, тым болей, што падаткі ў нашай Рэспубліцы найменшыя ўва ўсёй Эўропе. На жаль, таго не разумеюць шматлікія эмігранты з Рэспублікі Беларусь, якія змагаюцца дробным гандлем на вулічных кірмашах беларускіх garадоў і мястэчак. Нашая дзяржава разумее, што ў РБ гэныя людзі звыкліся наагул не плаціць падаткаў. Але да нашых крэўных братоў рэпатрыянтаў выпрацаваныя ляяльныя падыходы, што, на думку ўрадоўцаў, дапамогуць ім паступова адаптавацца да цывілізаваных умоваў вядзеньня бізнэсу, якія пануюць у нашай Рэспубліцы.

Напрыклад, у Гомлі маладыя падатковыя інспэктары, злучаныя ў адмыслова створаны аддзел "Талака", пад выглядам калядоўнікаў абышлі ўсе гандлёвыя кропкі тамтэйшага кірмашу "Цэнтральны" імя Зьмітра Прышчэпава, дзе амаль 100% камэрсантаў паходзяць з РБ. Інспэктары хаваліся пад маскамі Казы, Мікіткі, Ягіньні Каляды, Лёксы Кораня ды іншых традыцыйных калядных пэрсанажаў.

Як паведаміла ў інтэрвію кіраўніца акцыі, галоўны падатквы інспэктар Лорка Шчыракова, у выніку гэнае апэрацыі былі асягнутыя дзьве мэты: скарбніца места папоўнілася 9 мільёнамі талерамі, а эмігранты з РБ былі прылучаныя да каштоўнасьцяў традыцыйнае культуры. Досьвед гомельцаў зацікавіў цэнтральныя падатковыя органы ў Менску й будзе пашыраны на ўсю Беларусь.

**Алекс КОРАНЬ,"РБ"**

## У КРАІНЕ

*пачатак на старонцы 1*

пракамэнтаваў гэныя інсынуацыі: "Жуек, як вядома, у Рэспубліцы Беларусь не вырабляюць, бублікі іхныя насампраўдзе несамавітыя, а што да смаку гумак (ці як там кажуць "прызірвацівай"), дык таварыш Пульша, напэўна, ведае лепш".

Рэдакцыя ўспрымае пісаніну Пульшы ня толькі як закід у свой бок, але як абразу сотняў тысячаў нашых чытачоў.

У міністэрстве замежных справаў адбылася нарада з супрацоўнікамі нашае рэдакцыі, Пашпартна-візавае канцыляры ды амбасадарам РБ. Была прынятая нота да Ўраду і Дзяржкамдруку суседняе краіны, у якой тав. Пульша абвяшчаецца пэрсонаю нон-грату у БНР і пазбаўляецца назаўжды магчымасьці атрыманьня гэтак папулярнага ў РБ грамадзянства нашае Рэспублікі.

У той самы час галоўны рэдактар "Радавае Беларусі" сп. Паўлюк Я. Кубэ меў сустрэчу зь вядомымі фінансавымі круцялямі сп. Сарасовічам і сп. Казанковічам, якія фінансуюць апазыцыю ў Рэспубліцы Беларусь, з просьбай пераглядзець іхнае стаўленьне да "Беларускае маладзёжнае".

**Аддзел інфармацыі**

# БЯЗ "ГЭНЫХ МЫКУСАЎ"

Пасьля шматлікіх папярэджаньняў, вынесеных праз Народнае міністэрства друку, галоўны рэдактар газэты "Гэта Мыкус" Алекс Міксавічус афіцыйна пацьвердзіў сваю адмову на выданьне гэнае бруднае антыбеларускае паперкі з ультраправым ухілам, што кідала цень на нашую прэсу ў вачох міжнароднае грамадзкасьці. Гістарычнае прызнаньне прагучала ў будынку Народнага суду Рэспублікі а дзявятай гадзіне ўвечары пасьля цяжкіх допытаў сьледчым Белым-Лёгіёнавым і адсутнасьці ў абвінавачанага аргумэнтаў на карысьць свае рацыі. На прэсавай канфэрэнцыі Міксавічус сказаў, што пляную заснаваць новую газэту й актывізаваць сваю дзейнасьць, але наступным разам судовая кара мае быць больш строгаю й безапэляцыйнаю.

**БелКА**

## ТЭЛЕАНОНС

НТБ Народная Тэлевізія Беларусі

### ПРАГРАМА "ЗАМІРЭНЬНЕ"

6 САКАВІКА СУБОТА 17. 30

55 гадоў таму, 6 лютага 1944 году, тагачасны Прэзыдэнт Беларусі Радаслаў Астроўскі выдаў загад аб наборы ў Беларускую Краёвую Абарону. Гэтае вайсковае фармаваньне засноўвалася для "абароны Бацькаўшчыны" ўва ўмовах акупацыі падчас Другое сусьветнае вайны часткі тэрыторыі Рэспублікі маскоўскімі й нямецкімі войскамі.

У наўпроставым эфіры НТБ сустрэнуцца вэтэраны БКА, незалежнае партызанкі й ваяры Арміі Краёвай. Як сёньня глядзяць колішнія жаўнеры розных вайсковых фармаваньняў на падзеі таго часу- пра гэта можна будзе даведацца з праграмы.

Радавая Беларусь

Заснавальнікі–Народны Сакратарыят Беларускае Народнае Рэспублікі й Рэдакцыйная Рада

*Наш адрас: 220030, Менск а/с 169*

Галоўны рэдактар Паўлюк Я. КУБЭ